www.nv-online.info

# Народная Воля

№ 22 (3865)

21 сакавіка 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ВЫБАРЫ

## Бюлетэняў хопіць з лішкам



— На мясцовых выбарах друкаваннем бюлетэняў займаюцца акруговыя і тэрытарыяльныя камісіі. Таму, натуральна, яны друкаваліся ў розных месцах. Гэта калі прэзідэнцкія выбары, дык бюлетэні друкуюцца ў Доме друку і гэтае пытанне кантралюем мы, ЦВК. А цяпер, на мясцовых выбарах, у нас 118 раёнаў, 10 гарадоў абласнога падпарадкавання, шэсць абласцей і горад Мінск, і яны самі адказваюць за друкаванне, — менавіта такім быў адказ сакратара Цэнтральнай выбарчай камісіі **Мікалая Лазавіка** на пытанне "Народнай Волі" аб тым, хто кантралюе колькасць надрукаваных бюлетэняў для галасавання і дзе яны друкуюцца.

Ва ўсім свеце нават пытанне не паўстае, ці павінен быць грамадскі кантроль над колькасцю надрукаваных выбарчых бюлетэняў. Там у склад выбарчых камісій уваходзяць прадстаўнікі розных партый, каб кантралявалі адзін аднаго і такім чынам забяспечвалі дэмакратызм і чэснасць падліку галасоў. А ў нас нават на сметніцах знаходзілі бюлетэні з "няправільным" галасаваннем, аднак, з другога боку, у выбарчых камісіях не было зафіксавана ніякіх нястач. Як так?

Працягваем размову з Мікалаем Лазавікам.

— **Колькасць бюлетэняў павінна быць абмежавана?**

— Заканадаўства дазваляе друкаваць іх з запасам у 5 працэнтаў.

— **Якім чынам можна гэта праверыць?**

— Кожная камісія атрымлівае бюлетэні і па акце перадае іх ва ўчастковыя выбарчыя камісіі. На практыцы ўсё выглядае так: акруговая камісія прывозіць бюлетэні на ўчасткі, і там складаецца акт. Усё пералічваюць і фіксуюць, колькі бюлетэняў перадала акруговая камісія і колькі іх прыняла ўчастковая камісія.

— **А можа такое быць, што зробяць больш за 5 працэнтаў "лішніх" бюлетэняў?**

— А навошта гэта трэба? Я лічу, што і 5 працэнтаў зашмат. У нас жа 100-працэнтнай яўкі на ўчасткі ніколі не бывае. Таму і гэты запас у 5 працэнтаў ніколі яшчэ не спатрэбіўся. Дастаткова было б друкаваць 100% бюлетэняў ад спісу выбаршчыкаў. Але могуць быць, канешне, нейкія надзвычайныя сітуацыі, напрыклад, пажар ці паводка. Мінімальны запас на такія выпадкі трэба рабіць, але я не прыпомню, каб гэта спатрэбілася.

— **Калі на ўчастак прыйшло, напрыклад, толькі 10 працэнтаў выбаршчыкаў, які лёс нявыкарыстаных бюлетэняў?**

— Колькі б людзей ні прыйшло, пасля заканчэння галасавання перш за ўсё пералічваюць тыя бюлетэні, якія засталіся. Яны пагашаюцца.

— **Якім чынам?**

— Можна абрэзаць вугал ці шылам іх праткнуць. Карацей, камісіі павінны іх неяк механічна сапсаваць. Потым гэты стос апячатваецца, падпісваецца, з якога яны выбарчага ўчастка. І толькі пасля гэтага павінен пачынацца падлік бюлетэняў, якія засталіся ў скрынях. Потым тыя бюлетэні, якімі не скарысталіся, і тыя, якімі скарысталіся, з усёй дакументацыяй перадаюцца для захавання ў архіў.

**Любоў ЛУНЁВА.**

### Тым часам

Кандыдат у дэпутаты Брэсцкага гарсавета па выбарчай акрузе №31 **Аляксандр Мельнік** звярнуўся ў пракуратуру Брэсцкай вобласці з заявай, у якой просіць правесці праверку па факце адсутнасці выхадных дадзеных на бюлетэнях для галасавання на сваёй выбарчай акрузе. Такім чынам, ці сапраўдныя, афіцыйныя гэтыя бюлетэні, ці нейкая падробка, кандыдат не ведае. Аляксандр Мельнік абураецца: "*Я патэлефанаваў у Брэсцкую друкарню, дзе мне паведамілі, што ніколі не друкуюць выхадныя дадзеныя на выбарчых бюлетэнях. На маё пытанне "Чаму?" адказалі: "Усе даведкі ў аблвыканкаме*".

Паводле слоў кандыдата ў дэпутаты, у заяве на імя пракурора Брэсцкай вобласці ён настойвае на тым, што гэта як мінімум парушэнне закона аб друку, а таксама правілаў прыёму і выканання заказаў на прадпрыемствах, якія ажыццяўляюць паліграфічную дзейнасць. Мельнік просіць прыцягнуць да адказнасці вінаватых службовых асоб і абавязаць іх ліквідаваць парушэнне.

"*Калі такія бюлетэні друкуюцца без выхадных дадзеных, дык увогуле нельга высветліць, кім, калі і колькі іх было зроблена. Акрамя таго, іх можна растыражаваць у любой колькасці на ксераксе. І гэта — шчыліна для тых, хто хоча зрабіць вынікі выбараў такімі, якія ім трэба. За дзесяць гадоў свайго ўдзелу ў выбарчых кампаніях я сабраў столькі матэрыялу, што можна выпусціць манаграфію пра фальсіфікацыі на выбарах*", — кажа Аляксандр Мельнік.

АФІЦЫЙНА

## Мінскія ўлады дазволілі шэсце на Дзень Волі

*Учора быў атрыманы дазвол на правядзенне мітынгу і шэсця ў Дзень Волі 25 сакавіка. Пра гэта распавёў адзін з заяўнікаў, намеснік старшыні Руху "За Свабоду"* ***Алесь Лагвінец.***

У выніку дазволены наступны маршрут: з 18.00 да 18.30 збор ля кінатэатра "Кастрычнік" (м. "Акадэмія навук") і потым шэсце да плошчы Бангалор.

Сярод заяўнікаў акцыі на 25 сакавіка ў гэтым годзе — шэсць асоб: намеснік старшыні Руху "За Свабоду" **Алесь Лагвінец,** старшыня Партыі БНФ **Аляксей Янукевіч,** сябра прэзідыума БСДП (Грамада) **Анатоль Сідарэвіч, Антон Жылко** (АГП), **Марына Хоміч** (аргкамітэт па стварэнні Партыі БХД), **Уладзімір Колас** (Рада беларускай інтэлігенцыі).

ГАЗЕТА—ЧЫТАЧЫ

## Каб мець магчымасць рэгулярна трымаць у руках свежыя нумары «Народнай Волі», выйсце адно — падпісацца!

***Ну вось і ўчора было некалькі званкоў: чаму не выстаўляеце свежыя нумары "Народнай Волі" на сайт?***

***Шаноўныя сябры! Мы ўжо не раз паведамлялі: газета "Народная Воля" і аднайменны сайт рэдакцыі — розныя рэчы. Таму ўжо каторы месяц матэрыялы, якія друкуюцца на старонках выдання, выстаўляюцца ў інтэрнэт толькі праз два тыдні, для архіва, а не для аператыўнага азнаямлення. Для таго каб Вы ведалі, якія найбольш важныя матэрыялы змешчаны ў чарговым нумары, на сайце даюцца спецыяльныя анонсы.***

***Паўтараем: каб мець магчымасць рэгулярна трымаць у руках свежыя нумары "Народнай Волі", выйсце адно — падпісацца! Калі Вы гэта зробіце да 27 сакавіка, то ўжо з 1 красавіка паштальёны будуць прыносіць Вам дахаты "Народную Волю".***

***Нагадваем: у некаторых чытачоў заканчваецца падпісны тэрмін. Не забудзьцеся, калі ласка, падоўжыць падпіску на IV квартал.***

***Прыхільнікаў "Народнай Волі" чакаюць ва ўсіх паштовых аддзяленнях, а мінчан — яшчэ і ў спецыялізаваных пунктах "Белсаюздруку".***

### Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!

ПАД ГРАДУСАМ

## На выхадных можна будзе загараць

*Вось прагноз надвор'я, які агучыў вядомы сіноптык* ***Дзмітрый Рабаў*** *на бліжэйшыя дні.*

***Пятніца:*** днём +9...+15°С, па паўднёвым захадзе да +17°С. Раніцай і днём у многіх раёнах краіны ўзмацненне ветру парывамі да 15—20 м/с. Мінск — +13...+15.

***Субота:*** тэмпература ноччу +4...+9°С, днём +10...+17°С, па поўдні да +20°С. Ноччу па Віцебскай вобласці, днём месцамі па паўночна-заходняй палове краіны кароткачасовыя дажджы. Мінск — +14...+16.

***Нядзеля:*** тэмпература ноччу +4...+9°С, днём +13...+20°С. Месцамі кароткачасовыя дажджы. Мінск — +16...+18.

**Вера ВІР.**

НЕДВИЖИМОСТЬ

## Минские офисы за год подорожали на 16%

*Квадратный метр на вторичном рынке офисной недвижимости за год в среднем подорожал более чем на 16% в валютном эквиваленте. Об этом рассказала заместитель руководителя компании "Твоя столица. Недвижимость для бизнеса"* ***Ольга Сенчук****.*

В феврале 2014 года средняя стоимость офисного "квадрата" в готовых объектах составила 2260 долларов, тогда как в тот же месяц, но годом ранее — 1940 долларов. Самые дорогие офисы расположены вдоль проспекта Независимости, наиболее дешевые — в Заводском районе.

Для столичного рынка офисной недвижимости характерен значительный разброс цен. Стоимость офисного "квадрата" в разных бизнес-центрах варьируется в 2 раза — от 1987 до 4200 долларов. На цены влияют такие факторы, как месторасположение объекта, качество планировки и строительства, площади помещений, наличие парковки, удобного холла и т.д. Причем дороже всего покупателям обходятся помещения малого или среднего размера.

И хотя спрос и цена предложения растут, число реальных сделок снижается. В 2013 году офисные помещения стали приобретать на 5% реже. Более того, число таких сделок в 4-м квартале прошлого года снизилось на 23% по сравнению с аналогичным периодом 2012 года. На первичном рынке средняя стоимость 1 кв. метра составила 2085 долларов. С привлечением дольщиков строятся 11 бизнес-центров В-класса и восемь зданий класса "С". Однако, несмотря на разнообразие, по-настоящему знаковых объектов на рынке крайне мало. Среди них — достраиваемый комплекс "На торговой набережной" в Верхнем городе и бизнес-центр А-класса "Титул", которые станут визитными карточками города. Ставки для арендаторов столичных офисов за последние месяцы практически не изменились. В феврале за офисный "квадрат" наниматель в среднем платил 24,2 евро. Одна из тенденций — 20-процентное увеличение спроса на аренду современных офисов. Наибольшей популярностью у арендаторов по традиции пользуются помещения от 50 до 100 кв. метров. Возрастает у белорусских компаний интерес и к более крупным помещениям размером от 151 до 300 "квадратов".

*"На рынке сложилась интересная ситуация: продавцы и арендодатели рассчитывают на повышение спроса, а покупатели и арендаторы, напротив, ожидают снижения цен и арендных ставок*, — отметила **Ольга Сенчук**. — *Открытие новых бизнес-центров прогнозируемо приведет к обострению конкуренции и ужесточению требований к офисным помещениям, от чего выиграет как сам арендатор, так и рынок в целом".*

ЗА РУЛЕМ

## Пьяный водитель сбил на остановке в Речице пятерых человек

*Трое погибли.*



Трагедия произошла 19 марта в 23.00 на остановке транспорта "Улица имени Фрунзе" районного центра. По предварительной информации, 28-летний водитель, управляя автомобилем "Крайслер", неправильно выбрал скорость во время движения, в результате чего выехал на тротуар и совершил наезд на людей, стоявших на остановке.

В отношении водителя возбуждено уголовное дело по статье 317, часть 3 — нарушение правил дорожного движения, повлекшее по неосторожности смерть трех человек. Он задержан. Результаты проведенного медицинского освидетельствования показали, что водитель и пассажиры его автомобиля во время ДТП находились в нетрезвом состоянии.

ЧУЛІ?

## 8 красавіка можа выйсці на волю Мікалай Аўтуховіч

*Ваўкавыскі прадпрымальнік, ветэран афганскай вайны быў асуджаны на 5 гадоў і 2 месяцы зняволення.*

18 сакавіка ў Гродзенскай турме адбыўся выязны суд, дзе разглядалася пытанне пра ўстанаўленне над Мікалаем Аўтуховічам прэвентыўнага нагляду. Паводле інфармацыі праваабаронцаў, над палітвязнем устаноўлены прэвентыўны нагляд тэрмінам на 1 год і 4 месяцы, хоць сам Аўтуховіч разлічваў на больш мяккі прысуд — шэсць месяцаў нагляду.

Нагадаем, Мікалай Аўтуховіч быў асуджаны на 5 гадоў і 2 месяцы зняволення за захоўванне пяці патронаў да паляўнічай зброі. 8 красавіка заканчваецца тэрмін яго зняволення.

*"Мікалай мужна перанёс "ад званка да званка" ўвесь тэрмін*, — распавядае праваабаронца **Алег Волчак**. — *Не аднойчы паведамлялася, якому ціску ён падвяргаўся за кратамі за сваю пазіцыю, але гэтага чалавека не ўдалося нікому зламаць. Шчыра кажучы, Аўтуховіч павінен быў выйсці раней часу, да яго маглі прымяніць амністыю, чаго мы ўсе чакалі... На жаль, не выпусцілі, а таму ўбачымся толькі зараз. Спадзяюся, што да 8 красавіка для Мікалая ніякіх "сюрпрызаў" не падрыхтуюць".*



**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

З НАГОДЫ



*Марыя ЭЙСМАНТ*

## Не пагарэць на цяпле

Днямі старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю Аляксандр Якабсон заявіў, што да 1 мая павінны быць распрацаваны новыя нарматывы ў сістэме жыллёва-камунальнай гаспадаркі.

Пра што гаворка?

Гэтым разам — аб дыферэнцыяцыі тарыфаў на цяпло. "*Трэба знайсці такі механізм уліку і размеркавання паслуг, напрыклад, па цеплазабеспячэнні, які дазволіў бы адысці ад адзінай аплаты, прыкладна так, як ужо зроблена па вадзе. Не павінен адзіны жыхар чатырохпакаёвай кватэры плаціць за цяпло гэтак жа, як усе. Трэба перагледзець нормы спажывання паслуг і ўсталяваць тарыфы ў залежнасці ад іх*", — сказаў Якабсон.

Калі шчыра, зразумець логіку гэтай прапановы складана. Усе ведаюць, што ацяпленне ў нашых шматпавярховых дамах цэнтралізаванае, і ўсе "клеткі"-кватэры забяспечваюцца цяплом аднолькава. І няма ніякай розніцы ў тым, колькі чалавек жыве ў кватэры — адзін, два ці пяць, бо яны усё роўна не могуць паўплываць на тое, як грэюцца батарэі. Таму я асабіста супраць, калі маю суседку знізу абавяжуць плаціць за ацяпленне больш, чым плаціць мая сям'я з трох чалавек толькі таму, што яна жыве адна ў трохпакаёвай кватэры. Гэта проста несправядліва! Іншая справа, калі на батарэях будуць устаноўлены так званыя лічыльнікі цяпла. У багатай Германіі такую аўтаматыку я назірала яшчэ ў 1990-я гады. Рэч, безумоўна, вельмі зручная. Папершае, тэмпературу ў пакоі выстаўляеш якую хочаш, у залежнасці ад таго, на вуліцы мароз ці адліга. Па-другое, гэта дазваляе значна эканоміць у аплаце ацяплення.

Аказваецца, у нашых умовах цэнтралізавана абсталяваць такімі лічыльнікамі кватэры немагчыма. Спецыялісты Мінжылкамгаса ўжо даўно патлумачылі: у Беларусі шматпавярховыя жылыя дамы маюць вертыкальную разводку сістэмы ацяплення, якая не дазваляе арганізаваць пакватэрны ўлік цяпла. Каб усё гэта перарабіць, патрэбны немалыя сродкі, якіх, як водзіцца, у бюджэце няма.

Аднак тыя ж спецыялісты кажуць, што ў кожнай кватэры можна ўсталяваць індывідуальныя прыборы ўліку цяпла. Але тады ўжо на кожнай батарэі і, зразумела, за кошт саміх жыхароў. Паводле прыблізных падлікаў, на аснашчэнне толькі двухпакаёвай кватэры такімі лічыльнікамі спатрэбіцца каля трох мільёнаў рублёў (самі прыборы + работа). Не кожная сям'я можа сабе такое дазволіць.

Але фінансавы складнік — не галоўны аргумент супраць такой справы.

У Беларусі з 2003 года жыхарам шматпавярховак прапаноўваюць усталёўваць лічыльнікі цяпла. Але сёння ў Мінску толькі каля 300 дамоў разлічваюцца за ацяпленне па схеме "колькі спажылі — столькі заплацілі". Літаральна ўсе гэтыя дамы — новабудоўлі. З аўтаматыкай, якая рэгулюе тэмпературу ў кватэрах, яны праектаваліся і здаваліся. А вось у старым жылым фондзе жадаючых перайсці на, здавалася б, эканомнае спажыванне цяпла не знаходзіцца. Чаму? Усё проста: перайсці на новую схему спажывання цяпла можна толькі ўсім дамам, бо батарэі ў нашых кватэрах злучаныя: адзін зменшыць паступленне цяпла ў свае пакоі — усе суседзі зверху застануцца з халоднымі батарэямі... І калі людзі пачынаюць разважаць, то адразу з'яўляюцца аргументы, каб адмовіцца ад прыбораў. У адных няма сродкаў на іх пакупку. Некаторыя скардзяцца, што жывуць у халоднай вуглавой кватэры альбо на першым паверсе з сырой падлогай, і ў такую кватэру хоць сто лічыльнікаў пастаў, зэканоміць на аплаце наўрад ці атрымаецца. А ёсць дамы, дзе батарэі ўвогуле схаваны ў сцены. І гэтыя батарэі спачатку трэба са сцен дастаць, каб усталяваць у іх тэрмастаты. Гэта ж які рамонт прыйдзецца перажыць?! Сапраўды, ніякага лічыльніка не захочаш.

Не выключана, што ў бліжэйшай будучыні ніхто нашай згоды на ўстаноўку лічыльнікаў цяпла нават не будзе пытацца. Таму што, па логіцы, *"адысці ад адзінай аплаты цяпла"*, як таго хоча дзяржава, можна, толькі ўсталяваўшы ў кожнай кватэры індывідуальныя прыборы. Памятаеце, як было з лічыльнікамі на ваду? Народ доўга разважаў, узважваў усе "за" і "супраць", а потым урад выдаў пастанову: тыя, хто не ўсталяваў лічыльнікі, будуць аплачваць 100% кошту вады. І прыйшлося ісці ды тыя лічыльнікі купляць. Праўда, калі шчыра, гэта новаўвядзенне нельга назваць неразумным, ваду беларусы сапраўды сталі эканоміць.

Лічыльнікі на ваду і лічыльнікі на цяпло — розныя рэчы. Спажыванне вады — твая асабістая справа: хоць плавай у гэтай вадзе — сколькі вальеш, за столькі і заплаціш. А вось з лічыльнікамі цяпла не ўсё так проста. Тэмпературу паменшыць не атрымаецца, бо суседзяў можаш замарозіць, а значыць, не зможаш паўплываць на аб'ёмы спажытай цеплаэнергіі. А калі батарэі будуць распаленыя дачырвана, якая ж тады будзе эканомія?

Як будзе праходзіць увядзенне тарыфаў на ацяпленне? Што прапануюць чыноўнікі? З уводам новых тарыфаў на электраэнергію, якія прывязалі да кватэры, а не да колькасці людзей, якія ў ёй пражываюць, выйграла дзяржава, а не простыя людзі. І сёння для многіх сем'яў аплата электраэнергіі — немалая частка выдаткаў. Таму неяк слаба верыцца ў тое, што "*пасля перагляду нормаў спажывання паслуг"* на цеплаэнергію і *"ўстанаўлення тарыфаў у залежнасці ад іх"* выйграюць шараговыя грамадзяне. Хаця, канешне, хацелася б памыліцца.

ХТО ЁСЦЬ ХТО

# Стаўка на... камуністаў

Ціха-ціха і выбары ў мясцовыя Саветы падыходзяць да свайго фіналу. Бюлетэні на ўчасткі ўжо завезены, у аўторак пачалося датэрміновае галасаванне, ды і твары ў выбарчых камісіях знаёмыя — па большасці, "працэс" забяспечваюць настаўнікі. У чым жа сакрэт такой высокай выканаўчай дысцыпліны **кіраўнікоў педагагічных калектываў,** якія не толькі самі пакорліва пагаджаюцца выконваць непрафесійныя абавязкі, але і мабілізуюць на гэтую справу сваіх падначаленых?

Сёння, карыстаючыся абнародаванымі дэкларацыямі аб даходах кандыдатаў у дэпутаты, "Народная Воля" вырашыла праанализаваць узровень матэрыяльнага дастатку дырэктараў школ і іншых педагагічных установ і іх падначаленых.

Настаўнікі ў нас на ўсе рукі майстры. Высокі ўзровень навучання, як сведчыць кожная ўступная кампанія, яны, праўда, забяспечыць ніяк не могуць, затое на кожных выбарах яны і ў складзе выбарчых камісій, і па той бок працэсу — самі балатуюцца ў дэпутаты. Гэта і дае рэдкую магчымасць упэўніцца: ці такія ўжо бедныя настаўнікі, як гэта прынята лічыць?

**Ларыса Давыдзенка** — настаўніца беларускай мовы мінскай СШ №141. Член кампартыі, хоча стаць дэпутатам Мінгарсавета ад Ахоцкай выбарчай акругі №1. За мінулы год мела даход — 71 мільён 156 тысяч 413 беларускіх рублёў. У разліку на месяц атрымліваецца амаль што 6 мільёнаў рублёў. З улікам таго, што Ларысе Паўлаўне яшчэ і сарака гадоў няма, а значыць, педагагічны стаж далёка не астранамічны, гэта не так ужо і дрэнна. Тым больш што чатыры разы на год і ў школьнікаў, і ў настаўнікаў "здараюцца" канікулы.

**Святлана Знак** — кандыдат у дэпутаты па Аўтазаводскай выбарчай акрузе №4 — чалавек больш сталы і больш вопытны. Ды і ўжо не проста настаўнік, а дырэктар СШ №124. І, дарэчы, таксама член камуністычнай партыі. Задэклараваны гадавы даход склаў 102 мільёны 16 тысяч 705 рублёў. Альбо ў сярэднім 8,5 мільёна рублёў у месяц. Між іншым, амаль тая самая тысяча долараў, якую ўсёй краіне абяцаюць толькі ў 2015 годзе.

**Анжэла Кіракасян**, што балатуецца па Мілінаўскай выбарчай акрузе №8, у свае 35 гадоў таксама займае адказную пасаду і з'яўляецца намеснікам дырэктара па выхаваўчай рабоце дзяржаўнай установы адукацыі "Пачатковая школа №29 г.Мінска". Што цікава — маладая камуністка.

Агульная сума даходу за 2013 год склала 25 мільёнаў 826 тысяч 629 рублёў, ці, як лёгка падлічыць, крыху больш за 2 мільёны ў месяц. Што вельмі дзіўна. Альбо значную частку года Анжэла Іванаўна нідзе не працавала, альбо гэты паказчык трэба прызнаць няпраўдападобна малым, аналагаў якому ў яе калег мы проста не знайшлі.

**Алена Баршчэўская** — яшчэ адна настаўніца, дырэктар СШ №89. І яшчэ адна камуністка ў спісе кандыдатаў у дэпутаты Мінгарсавета. Тут ужо міжволі задумаешся: ці не з'яўляецца членства ў кампартыі нейкай абавязковай умовай для кадравага росту ў педагагічнай сферы, тым больш што намеснік старшыні Мінгарвыканкама І.Карпенка, які курыруе і адукацыю, гэтую самую кампартыю ўзначальвае?.. Можа, ён, выкарыстоўваючы службовае становішча, ціхай сапай прасоўвае ў мінскія дэпутаты сваіх аднапартыйцаў і рыхтуе такім чынам у сталіцы камуністычны пераварот?..

Як кажуць, ёсць пра што падумаць.

Але вернемся да даходаў. Алена Баршчэўская ў 2013 годзе мела даход 69 мільёнаў 873 тысячы 684 рублі. Гэта 5,8 мільёна рублёў у месяц, што згодна з сярэднім валютным курсам эквівалентна 685 доларам.

Прыкладна такі ж даход мела і **Марына Осіпава** — дырэктар мінскай СШ №168. Згодна з дэкларацыяй, ён склаў 67.113.946 беларускіх рублёў. Для дырэктара — няшмат. Па крайняй меры ў параўнанні з іншымі дырэктарамі-калегамі.

Далей у сталічным спісе кандыдатаў-педагогаў — настаўнік СШ №159 **Уладзімір Шэін**. Тут адразу звяртае на сябе ўвагу год нараджэння прэтэндэнта на мандат — 1945-ы. Іншымі словамі, чалавек мае і пенсію, і заробак, так што ў нашым эксперыменце з вывучэннем даходаў улічваць гэтую кандыдатуру будзе некарэктным. Але нельга не адзначыць, што Уладзімір Шэін — яшчэ адзін настаўнік-камуніст.

І, як вы здагадаліся, не апошні.

Так, кандыдат у дэпутаты па Жудроўскай выбарчай акрузе №30 — член КПБ, дырэктар Мінскага дзяржаўнага каледжа тэхналогіі і дызайну лёгкай прамысловасці **Вольга Рунец**. Гадавы даход — 158 мільёнаў 248 тысяч 966 рублёў, ці амаль 14 мільёнаў у месяц. Як сведчыць статыстыка, большасць нашых землякоў пра такія даходы толькі марыць.

Дырэктар гімназіі №31 **Ганна Старавойтава** — беспартыйная. І таксама можа пахваліцца тым, што ўжо здзейсніла мару многіх пра тысячу долараў: у мінулым годзе мела даход 161 мільён 909 тысяч 018 рублёў.

Для параўнання прывядзём заробак простага настаўніка гімназіі. **Юрый Круглік**, настаўнік гімназіі №37, што ў тым жа Фрунзенскім раёне Мінска, задэклараваў даход больш як удвая меншы — 78 мільёнаў 246 тысяч 862 рублі.

Напэўна, на гэтым вывучэнне спісу кандыдатаў і іх даходаў можна спыніць. Выснова ўжо напрошваецца сама сабой: за рэдкім выключэннем, кіраўнікі навучальных устаноў у мінулым годзе мелі даход, памер якога дасягаў і перавышаў "салодкую планку" — тысячу долараў у месяц. У параўнанні з сярэднімі даходамі па краіне гэта зусім нямала.

Простыя настаўнікі, як і трэба было чакаць, аказаліся людзьмі значна бяднейшымі. Але таксама не самымі беднымі. Бо ўзровень іх даходаў таксама вышэй за сярэдні па краіне.

А вось чаму сярод педагогаў выявілася нечакана шмат камуністаў?.. Магчыма, мы не заўважылі, што нашых дзяцей зноў выхоўваюць настаўніцы-камуністкі, адданыя начальству, кіруючаму рэжыму і бальшавіцкім ідэям, дзеля якіх не шкада чужых жыццяў?.. Калі так, то гэта павінна насцярожыць не толькі бацькоў дзяцей, а і ўсю грамадскасць.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

**P.S.** *Не, не выпадкова на пасадзе намесніка старшыні Мінскага гарвыканкама, які курыруе і адукацыйную сферу, апынуўся лідар беларускіх камуністаў Ігар Карпенка. Гэтае крэсла ў сталічнай уладзе перадаецца камуністам быццам па спадчыне. Узгадайце, хто быў у Мінгарвыканкаме адным з папярэднікаў І.Карпенкі — Валянцін Чыкін, ён таксама ўзначальваў партыю камуністаў Беларусі.*

*Паколькі Ігар Карпенка з'яўляецца галоўным сталічным ідэолагам, то атрымліваецца, што ўся ідэалогія ў Мінску трымаецца на падмурках камуністычнай ідэалогіі.*

СКАНДАЛ

## МЗС Беларусі высвятляе, каго затрымала Польшча

*Знешнепалітычнае ведамства Беларусі накіравала запыт у адпаведныя органы Польшчы, каб высветліць, хто канкрэтна з беларускіх грамадзян затрыманы ў гэтай краіне.*

*"Мы хочам даведацца, ці з'яўляюцца затрыманыя менавіта тымі людзьмі, пра якіх пішуць польскія мэдыя",* — паведаміў сёння на брыфінгу прэс-сакратар МЗС Беларусі **Дзмітрый Мірончык.**

Раней у польскіх СМІ з'явілася інфармацыя пра тое, што двух беларусаў затрымалі паводле падазрэння ў шпіянажы. Прычым адзін з затрыманых, паводле сцвярджэнняў "Газэты выборчай", — вайсковы аташэ амбасады Беларусі.

Спадар Мірончык паведаміў, што затрыманых ужо наведваў беларускі консул.

РЭГІЁНЫ

## Пераход не выратаваў

У Брэсце на пешаходным пераходзе маршрутка збіла пенсіянерку.

Пажылая жанчына пераходзіла дарогу на вуліцы Леніна па нерэгуляваным пешаходным пераходзе. На поўным ходу яе збіла маршрутка. Жанчыну адразу даставілі ў рэанімацыю з закрытай чэрапна-мазгавой траўмай, закрытым пераломам правай плечавой косткі і пераломам сцегнавай косткі. На жаль, жанчына не перажыла аварыю.

Праваахоўнікі высвятляюць, якім чынам кіроўца не заўважыў пешахода. У яго ўзялі кроў для даследавання на наяўнасць алкаголю. Па ДТЗ праводзіцца праверка.

## Жывёльныя норавы

Гродзенскія ўладальнікі сабак упадабалі воінскія могілкі для выгулу сваіх гадаванцаў. Заўвагі і пагрозы для іх — пусты гук. Не саромеюцца нават нацкаваць сабаку на тых, хто робіць ім заўвагі.

Між тым могілкі з'яўляюцца гістарычным помнікам і ахоўваюцца дзяржавай. Больш падобнага мемарыяла ў Беларусі няма. Першыя пахаванні тут з'явіліся яшчэ ў 1888 годзе.

Вырашыць праблему пакуль не атрымліваецца. Уладальнікі сабак лічаць, што робяць усё правільна, і нават штрафы іх не палохаюць.

## Увага!

Міліцыя Гродна шукае гвалтаўніка, які напаў на малалетнюю дзяўчынку.

Здарэнне адбылося яшчэ ў лютым у Румлёўскім парку. Невядомы напаў на малалетнюю дзяўчынку і здзейсніў гвалтоўныя дзеянні сексуальнага характару. Гродзенская міліцыя склала фотаробат падазронага і просіць гараджан дапамагчы ў раскрыцці злачынства.

**Прыкметы падазронага:** узрост — 26—28 гадоў; рост — 185—190 сантыметраў, хударлявага целаскладу, цёмныя валасы. Быў апрануты: паліто чорнага колеру, спартыўная кофта з капюшонам цёмна-сіняга або чорнага колеру, цёмныя штаны.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

*У сельскагаспадарчых вытворчых кааператывах, прадпрыемствах іншых форм уласнасці сёння працуюць больш за 60 тысяч кіраўнікоў і спецыялістаў. Калі браць у сярэднім, то атрымліваецца, што ў кожнай гаспадарцы склад такіх кадраў перавышае 40 чалавек.*

*Як кажуць у народзе, "на сем прыганятых адзін араты". Якая эканоміка вытрымае такую колькасць едакоў?*

## У наркалагічным дыспансеры — зніжкі

*28 сакавіка ў Гарадскім клінічным наркалагічным дыспансеры ў Мінску лячыць людзей, якія пакутуюць на алкагалізм, будуць з 50%-най зніжкай.*

Метады лячэння — кадзіраванне (са зніжкай 380 тысяч рублёў) і падшыўка (са зніжкай 240 тысяч рублёў).

Запісацца на льготнае лячэнне можна да 27 сакавіка па тэлефоне (017) 292-31-03. Лячыць будуць па адрасе: вул.Някрасава, 22/1. Пацыентам неабходна перш за ўсё жаданне пазбавіцца ад алкагольнай залежнасці, а таксама ўстрыманне ад алкаголю не менш як 10 дзён да моманту лячэння.

ПЕРСОНА

# Бизнес-ангел

## *25 вопросов инвестору, который считает, что приватизировать нужно все, вплоть до тюрем, потому что патерналистские, иждивенческие настроения портят характер нации*



*Наверное, наш читатель спросит, во-первых, кто такие бизнес-ангелы. Если кратко и просто, это бизнесмены, готовые поделиться собственными средствами. Но не со всеми подряд. Рисковые люди, они вкладываются в новичков, в проекты на самых ранних стадиях их развития. Причем не одалживают деньги под проценты, как банк, а предоставляют деньги, а также связи, опыт в обмен на долю акций в новой компании. Одно это делает этих инвесторов заслуживающими внимания общественности и достойными поддержки со стороны государства, ведь развитие малого и среднего частного бизнеса способствует эффективности экономики.*

*Во всем мире бизнес-ангелы весьма популярны, например, в США их насчитывается около миллиона. Благодаря им начались и успешно продолжаются истории таких именитых компаний, как Google, Apple, Amazon. В Беларуси поддержкой стартапов занимается пока только одна организация — "Бавин". Сейчас к слову, "Бавин" объявил конкурс проектов для малого бизнеса Start2go.move together. Уже 40 человек подали свои заявки. Пользуясь случаем, упомяну, что за первое место в конкурсе будет выплачено 15 тысяч долларов, за второе место — 10 тысяч долларов, за третье место — 5 тысяч долларов. Обдумайте свои идеи — есть шанс начать собственное дело да еще найти ментора, гуру, сильную поддержку.*

*Конечно, бизнес-ангел — профессия нервная. Ты отдаешь свои кровно заработанные деньги кому-то, и он их последовательно тратит на рискованные эксперименты в надежде найти свою нишу. Но* ***Александр КНЫРОВИЧ,*** *член сообщества бизнес-ангелов "Бавин", умеет балансировать между риском и опытом. Говоря простым языком, он вывел в люди уже около десятка бизнесов, и некоторые из них весьма известны: бутик премиум-шоколада Shocos, настольные экономические игры "Игрика", арт-хостел Traveler, международный обмен открытками "Postcard of dream".*

*Готовясь к интервью, я прочитала, что Александр Станиславович во время серьезных встреч, переговоров снимает с руки свои часы и кладет их рядом — такая вот привычка. Как спортсмен перед тренировкой или даже как земледелец перед трудной жатвой, подумала я. Что ж, в своем роде Александр Кнырович, собственно, и тот, и другой: как тяжеловес, поднимает молодых, их веру в себя, финансово поддерживая их идеи. И так же, как настоящий хозяин на земле, сеет в своих подопечных зерна знаний, опыта — бесценные дополнительные ресурсы для развития молодых предпринимателей.*

### Досье «Народной Воли»

*Александр Кнырович — совладелец ряда компаний в сфере энергетики, девелопмента, масс-медиа, ивент-менеджмента. Совладелец строительного холдинга "Сармат", учредитель ООО "Сармат Термо Инжиниринг".*

*Родился в Минске. Закончил БГЭУ (управление промышленным предприятием), получил степень магистра бизнес-администрирования MBA в Высшей школе бизнеса МГУ.*

*В рамках Всемирной недели предпринимательства награжден премией "Ментор 2013 года".*

*1.* **— Как вы относитесь к жизни, Александр Станиславович?**

— Жизнь — это Божий дар. Если уж ты родился, руки-ноги целы, глаза видят, а уши слышат, то это уже большое счастье. Хочу прожить долго и сделать много полезного.

*2.* **— Вам приходилось менять свои взгляды?**

— Да, конечно. Это вопрос возраста и опыта. Жизнь идет, взгляды меняются. Черчилль говорил: кто в молодости не был радикалом (вариант: либералом) — у того нет сердца, кто в зрелости не стал консерватором — у того нет ума. С годами, когда понимаешь, что и откуда растет, смотришь на многие вещи спокойнее. Мои взгляды менялись постепенно и эволюционно. Наверное, тот человек, каким я был 20 лет назад, мне бы самому теперь не понравился.

*3.* **— Скажите, на сколько процентов для вас участие в проекте "Бизнес-ангел" — миссия, а на сколько — бизнес?**

— У нас в стране в отличие от США это в очень большой степени миссия социальная. Заработать деньги на стартапах в Беларуси непросто. О причинах я могу говорить долго, но факт, что я и мои коллеги, участвующие в проекте, прежде всего хотим поделиться опытом. Я верю в две вещи: что каждому от рождения дан талант и что главная задача личности — развить его. А если ты этим не занимаешься, то ты, условно говоря, совершаешь грех — или назовите это как угодно. А второе: я верю в капитализм. Верю, что свободное предпринимательство — это хорошо. Что, если человек не висит на шее у государства, а, наоборот, создает товары, продукты, услуги и отвечает перед своими сотрудниками за их рабочие места, а также платит налоги, — это хорошо. Миссия "Бавина" — создавать в стране больше частного бизнеса.

*4.* **— Что вам нравится в сегодняшних молодых, которые приходят к вам с идеями?**

— Мне нравится, что в отличие от нас, когда мы были в их возрасте, они гораздо более энергичны. Благодаря интернету молодые сейчас гораздо больше вплетены в мировой контекст, более эрудированны.

*5.* **— То есть можно сказать, что человек со временем все-таки становится лучше?**

— В исторической перспективе — да! Когда мне говорят, что все в мире плохо-плохо, я отвечаю, что еще 400 лет назад люди собирались на площадях, чтобы посмотреть и похлопать казни как яркому зрелищу. Сегодня мы и представить себе этого не можем. Но в 20-летнем периоде я серьезного рывка не вижу, конечно.

*6.* **— Тогда что не нравится в молодых людях?**

— Не в молодых — мне в принципе не нравится, что Беларусь патерналистская страна. Но, повторю, по этому вопросу у меня нет претензий к молодым. Общество мыслит так массово: "Государство нам должно". Как было при Советском Союзе, так остается и теперь. Но такие настроения убивают энергию! Мы видим это даже по "Бавину". К нам приходит около 300 заявок в год, а должно, по-моему, 3000. Я бы очень хотел, чтобы каждый понял, что отвечает сам за себя.

*7.* **— Вы считаете, что можно изменить ментальность нации? Сделать ее более энергичной за счет воспитания, идеологии?**

— Понимаете, либо мы обречены на ассимиляцию с соседями, либо что-то надо менять в своем характере, и я, скорее, верю во второе. У меня, сегодняшнего сорокалетнего, осталось активной жизни, думаю, лет 30. Это небольшой отрезок времени. Кардинально изменить взгляды соотечественников мне, наверное, не удастся, но я хотел бы сделать то, что доступно моим скромным силам.

*8.* **— Вы любите спорить с молодыми, с подчиненными?**

— Мы же занимаемся бизнесом. С этой точки зрения мой опыт значительно больше, чем опыт молодого человека. Поэтому молодые люди со мной особо в спор не вступают. Хотя и не все берут из советов.

*9.* **— По какому принципу подбираете людей в команду?**

— Люди должны сочетаться друг с другом, это классика. Если у вас структура "армейская", то творцов туда лучше не приглашать, они погибнут. И наоборот: творческим людям нельзя навязывать жесткую норму. Но если говорить о моих личных предпочтениях, то я, конечно, люблю людей голодных, то есть тех, у кого много амбиций. Я понимаю, что если дам им зону ответственности, определю мотивацию, то они, стремясь к собственным достижениям, потянут компанию вверх. И очень не люблю людей пессимистичных. Если у человека фон "все плохо", ему нельзя работать на сколько-нибудь ответственных должностях. Он распространяет эти эмоции вниз, на подчиненных, и они плохо сказываются на корпоративном климате. А бизнес — это всегда отношения между людьми. Да, сейчас в стране нехорошо, даже плохо с точки зрения экономики — она стагнирует, в последние несколько месяцев это явно видно. Но есть менеджеры, взрослые люди, которые пришли и сели на должности, они должны с этими ситуациями справляться.

*10.* **— А вот знаете ли вы, Александр Станиславович, что такое предательство? Испытали на собственной шкуре?**

— Конечно, сталкивался. Но, как я говорю, на низшем уровне. То есть люди крали деньги из фирмы, организовывали конкурирующий бизнес и так далее. Впрочем, за каждым из них стояла собственная история и причины, по которым они так поступали. Смотришь и понимаешь: ну несчастные люди. Я, конечно, предъявляю претензии, пытаюсь судиться, но в душе каждому из них соболезную. Вору трудно — он-то в душе знает, что украл. В то же время я строже спрашиваю с самого себя: что сам сделал не так? Почему я этого человека взял на работу, доверил деньги? Как сам создал возможность украсть? Анализ собственных действий гораздо эффективнее, чем концентрация многих сил на борьбу с воришкой.

*11.* **— Что бы вы сделали для бизнеса, если бы стали президентом?**

— Провел бы приватизацию всего, вплоть до тюрем. Видите ли, платить безработным пособия в размере нынешних зарплат государству было бы гораздо дешевле, чем оплачивать всю экономическую систему, как это происходит сегодня. Это первое. Второе — открытие всех границ. Третье — стабилизация судебной и налоговой систем. Неважно, какой уровень налогов, важно, чтобы они не менялись в течение сколь-нибудь длительного срока и люди знали, что их дела в судах будут рассматриваться по принципу законности или незаконности. А не по принципу "частное предприятие — государственное предприятие" либо по любому другому, не имеющему отношения к законности.

*12.* **— Удовлетворены ли вы состоянием диалога между властью и бизнесом?**

— Диалога нет вообще. Диалог с позиции царя — это не диалог.

*13.* **— Чувствуете ли вы как бизнесмен дискриминацию со стороны государственного сектора?**

— У нас она, дискриминация, как звук колес поезда, идет постоянным фоном: тук-тук, тук-тук. Если вы внутри вагона, то вскоре привыкаете к шуму и даже не слышите его. Так и в экономическом секторе: привыкли, что делать. Вот программа модернизации. Давайте и мне дадут пару сотен миллионов долларов, которые я не должен возвращать, а? А в деревообрабатывающей отрасли именно так и произошло. Но если бы частное предприятие хозяйствовало, как тот же "Борисовдрев", его менеджеров давно бы посадили, обанкротили. Но стоимость и доступ к финансовым ресурсам для госпредприятий и для частных компаний у нас разные.

*14.* **— Какой ценой дался вам успех?**

— Я не люблю говорить про успех, это штука относительная, у каждого в этом вопросе своя мерка. Но могу сказать, что совершал поступки, которые не противоречили моим внутренним убеждениям. При этом часто рисковал и брал на себя много ответственности. Не могу сказать, что мне когда-либо было легко. Бизнес — это бурлящий котел, ты не можешь сидеть на берегу и ждать, что все само собой утрясется. Надо совершать поступки.

*15.* **— Может быть, у вас есть любимый афоризм?**

— Пожалуй. Слова Алисы про Страну Чудес: здесь, чтобы оставаться на месте, надо бежать со всех ног.

*16.* **— Каким стартапом вы особенно гордитесь?**

— Отвечу так: можно красиво играть в футбол, но, если счет на табло минус два очка, ты проиграл. Так и в бизнесе. Пока есть стартапы, которые работают в ноль, а другие в минусе, то я не могу быть доволен. Да, некоторые идеи что-то приносят... Но бурного развития с точки зрения денег нет. А вот если смотреть на социальную составляющую, то мне многое нравится: например, как развивается арт-хостел, проект "ОРО". Я могу назвать штук пять проектов, которым явно помогла наша поддержка. А с деньгами... Я считаю, что если вы совершаете правильные действия, деньги к вам все равно придут.

*17.* **— С чего начинаете рабочий день? И интересно — во сколько?**

— Я человек организованный слабо, скажем честно. А бизнес, напротив, неорганизованным быть не может. Поэтому я подбираю ответственных топ-менеджеров, у которых другой склад характера, чем у меня, которые встают в 6 утра, а в 8 проводят совещание. Я в таком режиме жил когда-то сам, и мне это сильно не нравилось. Сейчас первую деловую встречу я назначаю часам к одиннадцати утра.

*18.* **— Какими информационными источниками пользуетесь?**

— Я читаю официальную статистику Беларуси. И взвешиваю ее на весах фактов, то есть вношу собственные корректировки. Бумажную прессу не покупаю. Откровенно говоря, читаю "Хартию'97" — чтобы понять взгляд на Беларусь со стороны махровой оппозиции. Читаю также ленты "Фэйсбука", там всегда что-нибудь свеженькое. Мировые новости узнаю из РБК.

*19.* **— А как вы относитесь к леди-боссам?**

— Леди-босс создание неестественное. Я имею в виду руководство компаниями. Я не сексист, ни в коем случае! Но природа сформировала женскую психику для деторождения, воспитания, то есть для сохранения и стабильности. Задача же мужчины — это риск, вечные беспокойства. Поэтому у женщины-босса очень много мужских черт. Хотя вот женщина в политике — это немного другая история. Но женщине у руля бизнеса, чаще всего, мы можем только посочувствовать.

*20.* **— У вас есть хобби, дорогие увлечения?**

— Я играю в баскетбол и футбол. Раз в год путешествую: Африка, Латинская Америка, Азия. Мне нравятся дальние страны, чужие культуры вызывают у меня интерес. У меня было ощущение детского счастья, нирваны, когда я, например, недавно попал на водопады Игуасу в Бразилии. Вообще красоту Амазонки, джунглей, водопадов по открыткам, по описаниям представить невозможно. Но есть еще и фавелы, трущобы. Собственно Рио-де-Жанейро — это и есть фавелы. Кошмарно. Дикий вид, дикие люди... Представить себе такое в Беларуси невозможно. Хотя, наверное, если зайти в пятницу вечером в захудалое общежитие, то тоже можно ужаснуться. Но у нас это отдельные зоны, темные пятна. А в Бразилии в трущобах живут массово. Приехать посмотреть очень интересно. Но жить в Рио-де-Жанейро не хочется.

*21.* **— Как вы думаете, латиноамериканцы тоже изводят себя вопросом, почему они не живут так же, как североамериканские штаты? Мы-то ведь постоянно, до болезненности сравниваем свой уровень жизни с Германией...**

— Когда наш среднестатистический житель говорит, что хотел бы жить так же, как в Германии, он очень слабо представляет, что такое жить и особенно работать в Германии. Но вопрос в другом: зачем делать сравнения? Если мы занимаемся реальным анализом — я, например, министр штанов и задаю себе вопрос, почему отрасль производства штанов в стране выглядит не так, как в Германии, а потом делаю выводы и предлагаю программу — так вот в этом случае я занимаюсь делом. А если просто терзать себя — несчастный, почему я здесь родился?! — то я занимаюсь ерундой, самобичеванием. Философствовать можно, но это непродуктивно.

*22.* **— Какую книгу предпочитаете: бумажную или электронную?**

— Не могу привыкнуть читать электронные книги! Я не фанат новинок информационных технологий. Скорее, иду во втором эшелоне. Фанатам завидую, но я — пользователь. И в автомобилях пользователь. Не знаю, где карбюратор, тормозная система и так далее. Но очень ценю удобства.

*23.* **— Вы отдыхаете с семьей или любите выкроить отдельное время для "сурового" мужского отдыха?**

— Мне не нужен дополнительный адреналин, я не чувствую, что организм надо дополнительно стимулировать.

*24.* **— А подчиненные часто делают вам подарки?**

— На день рождения, конечно, делают. Взятки? Нет, что вы, это скорее благодарности. Знаете, как врачу.

*25.* **— Скажите, вы часто звоните своей маме?**

— Слава Богу, в последнее время значительно чаще, чем было раньше.

**Елена МОЛОЧКО.**

РУБАМ!

## На словах — за простых людзей, на справе — за начальнікаў

Добры дзень, паважаная "Народная Воля"!

Чытаю газету з першых нумароў.

Больш пішыце пра заробкі начальнікаў, многія з якіх, як кажуць, з раскошы шалеюць, а рабочым людзям даюць капейкі.

На ААТ "Гродна Азот" рабочы атрымлівае 6 мільёнаў, а майстар - можа і 12 мільёнаў. І пайшло, і паехала вышэй — да самага дырэктара, які мае ў месяц ужо дзясяткі мільёнаў рублёў.

Пішыце, каб людзі ведалі, што А.Лукашэнка толькі на словах за простых людзей, а на справе даў чыноўнікам такія грошы, што нам, рабочым, і не сніліся.

Брэжнеў такога не дазваляў: 150 рублёў — слесару, 120—130 — майстру. Хочаш больш зарабляць — ідзі слесарам. Калі ўлічваць нізкую кваліфікацыю і безадказнасць шэрагу ітээраўцаў, то такі падыход у многіх выпадках быў апраўданы.

Пішыце пра існуючую сёння несправядлівасць больш, няхай людзі чытаюць і ведаюць, на чыёй шыі сядзяць начальнікі, якім патураюць улады і якія ўпэўнены ў сваёй усёдазволенасці.

**З павагай —**

**П.КАЗЕЙКА.**

*Гродна.*

ЗАЧАПІЛА!

## Здароўе ці лядовыя палацы?

Прыйшоў час даведацца мне пра стан маіх вачэй. 79 гадоў — гэта ўжо не жартачкі, і трэба карыстацца выгодамі сацыяльна арыентаванай краіны, якую адбудавалі і ў якой жывём.

У паліклініцы накіравалі ў спецыялізаваную ўстанову па дыягностыцы зроку ў афтальмалагічнае аддзяленне 3-й бальніцы, што на Леніна, 30. Там усё знаходзіцца ў маленькіх дамках, якія называюцца "карпусы". Прыходзіш у корпус №8, у рэгістратуру, якая накіроўвае на 2-гі паверх у кабінет №209 да ўрача Вольгі Святаславаўны Савіцкай — ветлівага і прафесійнага доктара-афтальмолага, адтуль пойдзеш у суседні 6-ы корпус, у кабінет №7. І тут, і там пастаіш у чарзе да гардэроба. Затым вернешся зноў да Вольгі Святаславаўны. Потым зноў у корпус №6, ужо ў кабінет №6. А тады зноў да ўрача. Такім чынам шлях твой мае шэсць чэргаў у гардэробы, чатыры разы туды-сюды па вельмі крутых з высокімі прыступкамі лесвіцах, па доўгіх калідорах, дзе падлога двойчы ідзе па розных узроўнях з подпісамі-перасцярогамі для паўсляпых людзей, каб не падалі. Паглядзіш на ўсё гэта і закрадваецца думка: а ці не маглі б мы мецъ для лячэння зроку людзей сталага ўзросту спецыяльна сканструяваныя будынкі аддзялення афтальмалогіі, каб гэтыя старыя, якія ў свой час будавалі ўсё ў краіне, адчувалі сябе ў сапраўды сацыяльна арыентаванай прасторы? Апаратура, узровень кваліфікацыі персаналу — усё добра. А памяшканне нікуды не вартае. Тут і ўспомніш, што недзе паблізу прастойваюць амаль непатрэбныя лядовыя палацы.

**Алег ГАЕЎСКІ,**
**пенсіянер з Мінска.**

ГОНАР АЙЧЫНЫ

# ...То ўзаемна, Кастусь!

## 22 сакавіка — 150 год ад пакарання смерцю Нацыянальнага героя Беларусі К.Каліноўскага

*Паважаная рэдакцыя "Народнай Волі"!*

*У артыкуле В.Хурсіка "Беларускія вучоныя на расійскай службе", змешчаным у вашай газеце 25.02.2014 г., расказвалася аб гісторыках К.Шаўчэнку, А.Гронскім, Ю.Барысёнку, Г.Шчаглове, якія ў сваіх публікацыях прадстаўлялі народнага героя Беларусі Канстанціна Каліноўскага, які паклаў жыццё за лепшае будучае беларусаў, "польскім" паўстанцам, а расійскіх вайскоўцаў, што патапілі ў крыві паўстанне 1863—1864 гадоў, канечне ж, вызваліцелямі, што прынеслі нам спакой, дабрабыт, шчасце...*

*Калі называць рэчы сваімі імёнамі, то вышэйназваныя гісторыкі, як і некаторыя іншыя рэнегаты, з гістарычных крыніц выбіраюць толькі тое, што на патрэбу ўласнай выгадзе і вялікадзяржаўнаму расійскаму шавінізму. Лічу, што грамадзянскі абавязак і справа гонару не толькі навукоўцаў, а і ўсіх нас — выкрываць дзічэзную хлусню, абараніць найвялікшага героя айчыннай гісторыі, аддаць даніну павагі светлай памяці паўстанцаў, якія прагнулі аднаго: каб беларусы займелі сваё права "людзьмі звацца".*



...Вядома, што вызвольнае паўстанне 1863—1864 гадоў выбухнула 22 студзеня 1863 года спачатку на тэрыторыі Польшчы. Яно было скіравана супраць маскоўскай акупацыйнай улады.

Пастуупова паўстанне перакінулася на землі былога ВКЛ — тэрыторыю сучасных Беларусі і Літвы. Тут змаганне з царскімі войскамі трывала даўжэй і было вельмі зацятае. Паўстанцкія аддзелы налічвалі каля 80 тысяч чалавек. Паміж змагарамі за Айчыну і куды мацнейшай 200-тысячнай расійскай арміяй адбылося каля 260 баёў.

У нашым краі паўстанне сваім характарам адрознівалася ад таго, што ў Польшчы. Там рэй вяла багатая шляхта, якая імкнулася аднавіць незалежнасць зліквідаванай Рэчы Паспалітай з яе старымі шляхецкімі парадкамі і прывілеямі. На Беларусі (Літве) паўстаннем кіравалі маламаёмасная дробная шляхта і мяшчане: яны былі прыхільнікамі ўзнаўлення незалежнасці ВКЛ і нават больш за тое — усталявання новага сацыяльнага ладу, каб сяляне атрымалі зямлю без выкупу — разам з асабістай свабодай і доступам да асветы.

Мозгам і рухавіком паўстання ў нас стаў 25-гадовы Кастусь Каліноўскі. Ягоныя ідэі і нязломны дух выявіліся ў сутнасці змагання, якое ставіла перад сабою дзёрзкія мэты, прадыктаваныя глыбіннымі, каранёвымі інтарэсамі прыгнечанага да немагчымасці беларускага люду.

Яшчэ да пачатку паўстання Кастусь разам з сябрам Феліксам Ражанскім абышлі ледзь не ўсю Гродзеншчыну. Гутарылі з сялянамі, казалі аб неабходнасці змагацца з маскоўскай уладай і польскімі панамі, якія трымалі сялянства ў эканамічнай і палітычнай няволі. З працы сялян нажываліся тысячы насланых сюды маскоўскіх урадоўцаў ды дваран. Новыя рускія паны пасылалі сялян-беларусаў, як нявольнікаў, ва ўсе часткі Расіі на цяжкія работы — будаўніцтва чыгунак, каналаў і іншых аб'ектаў. (Узгадайце хаця б незабыўную някрасаўскую паэму "Железная дорога", дзе паўстае трагічны партрэт і лёс хворага, знясіленага беларускага нявольніка, які дзень і ноч сваёй рыдлёўкай "мерзлую землю долбит".)

Знаходзячыся сярод сялян, Каліноўскі даводзіў, як важна адраджаць народнае беларускае гаспадарства, любіць сваю мову, не мірыцца з гвалтам, стаяць за свой край. Усё гэта з магутнай перакананасцю і душэўным напалам — проста і даходліва, на сялянскай, мужыцкай (беларускай мове той пары) выказваў у сваёй беларускамоўнай газеце "Мужыцкая праўда" — яна выдавалася падпольна і перадавалася з рук у рукі. Многія сяляне, незадаволеныя падманнай зямельнай палітыкай расійскага цара, прыхільна прымалі гэтыя ідэі, сугучныя іх трывогам.

А ён, малады яшчэ чалавек, які скончыў юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта і атрымаў дыплом кандыдата права, марыў не аб уласнай бліскучай кар'еры і добраўладкаванні, а каб суайчыннікі здабылі сабе зямлю і волю, сталі нацыянальна свядомымі, эканамічна моцнымі і адукаванымі грамадзянамі, на якіх змагла б абаперціся будучая незалежная Беларусь. Дамагаючыся роўных правоў для людзей без розніцы іх сацыяльнага стану, Каліноўскі выказаў вялікую мудрасць і прадбачлівасць, да якіх тады яшчэ не дайшлі нават самыя дэмакратычныя мысляры ў Расіі. На старонках "Мужыцкай праўды" ён пісаў: *"Нам вольнасці трэба не такой, якую нам цар хоча даці, але якую мы самі, мужыкі, паміж сабою зробім.*

*О, загрыміць наша праўда і, як маланка, праляціць па свеце... Ад Маскаля і паноў няма чаго спадзявацца, бо яны ня вольнасці, а глуму і здзірства нашага хочуць... Але ня доўга яны нас будуць абдзіраці, бо мы пазналі, дзе сіла і праўда, і будзем ведаць, як рабіць трэба, каб дастаць зямлю і волю..."*

І яшчэ:

*"Станьма-ж дружна разам за нашую вольнасць... І будзе ў нас вольнасць, якой не было ў нашых дзядоў і бацькоў".*

На жаль — і ў тым трагедыя нашай Беларусі — далёка не да кожнага беларуса змагла дайсці тады "Мужыцкая праўда" Каліноўскага, думкі якога падзялялі лепшыя сыны Бацькаўшчыны таго часу — у прыватнасці Францішак Багушэвіч, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч і іншыя, хто падтрымліваў паўстанцаў і пацярпеў за гэта ад царскага пераследу.

...Прысланы з Масквы ў Вільню ў чэрвені 1863 года губернатар М.Мураўёў жорстка распраўіўся з паўстанцамі, расстрэльваючы, вешаючы, высылаючы жывых у Сібір.

Каліноўскага, які пад мянушкай Віталёнец быў у Святаянскім манастыры ў Вільні, 19-гадовы студэнт Вітаўт Парафіяновіч (трэба ведаць і гэтае імя) выдаў расійскім карнікам. Пасля арышту правадыр паўстання быў прыгавораны да смяротнага пакарання.

Апошнімі словамі мужнага змагара за светлую будучыню беларускага народа быў запавет з віленскага астрогу: *"Ваюй, народзе, за сваё чалавечае і народнае права, за сваю веру, за зямлю сваю родную. Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасліва, калі над табой Маскаля ўжо не будзе".* Хіба не прарочыя словы? Яны і сёння аддаюцца трывожным звонам у беларускім сэрцы.

У апошнюю сваю раніцу 22 сакавіка 1864 года, пачуўшы, што ўрадовец падчас "рытуала" пакарання кліча яго "...дворянин Константин Калиновский", Кастусь перабіў: "Няпраўда! У нас няма дваранаў! У нас усе роўныя!" Ён быў паслядоўны і непахісны да апошняга ўздыху...

Тысячы змагароў загінулі геройскай смерцю ў тым паўстанні. Дзясяткі тысяч былі сасланы ўглыб Расіі. Маёнткі шляхты канфіскоўваліся і перадаваліся расійскім афіцэрам і чыноўнікам як узнагарода за адданую службу "царю-батюшке". За падтрымку паўстання быў учынены разгром і каталіцкаму касцёлу. Забіралі храмы, зачынялі кляштары, святароў высылалі, а вернікаў-уніятаў па-варварску змушалі пераходзіць у праваслаўе...

Масква адразу ж узялася за жорсткі ўціск усяго беларускага. Мэтай было знішчыць ідэю беларускай дзяржаўнасці, а сам народ цалкам зрусіфікаваць — ператтварыць у расійцаў. Беларуская мова была выведзена з ужытку ў школах, установах, судах. Рабілася ўсё, каб запанавала паўсюль руская. Паняволенне духоўнае і паняволенне тэрытарыяльнае — цесна звязаныя звёны аднаго ланцуга, аб чым — ужо ўголас — заявіў нядаўна сп.Пуцін: "Россия кончаецца там, где кончается русский язык". Ды гэтае ж самае ўцямяшвала сваім вернападданым і тагачаснай беларускай "эліце" расійская імператрыца Кацярына ІІ. "Мудрая" імперская ідэя ўвасабляецца і ў XXI стагоддзі, робячы мноства бед.

Варты ўвагі імпэт, з якім галоўны рэдактар часопіса "Родина" Ю.Барысёнак у сваёй публікацыі імкнецца вышукаць і падкрэсліць **небеларускасць** Каліноўскага. Дзеля гэтага ён прыцягнуў погляд польскага гісторыка Стэфана Кеневіча, што беларускасць кіраўніка паўстання была быццам толькі тактыкай дзейнасці "паляка" на Беларусі. Глупства, пане дабрадзею, як казаў несмяротны Янка Купала вуснамі свайго героя.

Спадару Барысёнку не варта шукаць беларускасці Каліноўскага ў паперках польскіх ці рускіх гісторыкаў. Яе знойдзеш у сэрцах людзей, што нясуць праз гады і гады імя героя Беларусі ў сваёй душы, людзей, хто і сёння ўсёй істотай адгукаецца на пароль каліноўцаў:

— *Каго любіш?*

— *Люблю Беларусь.*

— *То ўзаемна! Праходзь!*

Ён любіў суайчыннікаў і нас, хто прыйшоў за ім, хто не здрадзіць Радзіме ў цяжкі час. І мы адказваем герою:

— То ўзаемна, Кастусь! Ты — жывы, ты гонар Бацькаўшчыны на ўсе вякі.

**Іван ЯФІМЕНКА.**

ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО СПАЖЫЎЦОЎ

***На пытанні чытачоў "Народнай Волі" адказвае кіраўнік Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА "Беларускае таварыства абароны спажыўцоў" Васіль ВАЛАСЮК.***



## Мультыварка зламалася, а прадавец далёка

*У кастрычніку мінулага года набыла мультыварку. Яна працавала добра, а зараз раптам перастала рэагаваць на націсканне кнопак (хоць экран свеціцца). Тавар тэхнічна складаны, мы хочам аддаць у рамонт. А да прадаўца звярнуцца пакуль не можам, бо далёка ехаць. Калі проста здадзім мультыварку ў бліжэйшы сэрвісны цэнтр, ці не станем пасля гэтага менш абароненымі? Калі тавар зламаўся не па нашай віне і яго нельга адрамантаваць, ці зможам мы пасля з магазіна патрабаваць грошы ці абмен?*

**Алена ПАЛЯНСКАЯ, Кобрынскі раён.**

— Звярніцеся з пісьмовай прэтэнзіяй да прадаўца. Дакладна акрэсліце свае патрабаванні па замене няякаснага тавару. У любым сэрвісным цэнтры зрабіце акт тэхнічнага абследавання мультыварікі на прадмет істотнага недахопу. І тады ўжо зможаце законна патрабаваць абмену тавару ці вяртання грошай.

## Забыў шапку ў магазіне...

*У Мінску ў адным з цэнтральных магазінаў забыў дарагую шапку (дакладна памятаю, што там). Прыехаў на наступны дзень — не аддаюць. Што зараз мне рабіць?*

**Валянцін, г.Маладзечна.**

— Магу параіць звярнуцца з заявай у міліцыю, няхай правядуць расследаванне. Магчыма, у магазіне ёсць запісы відэакамер... Чакайце адказу. Паводле яго вынікаў і будзеце карэкціраваць свае далейшыя дзеянні.

## Муж, не параіўшыся, купіў фільтр для вады

*Днямі да нас прыйшоў малады чалавек, стаў паказваць, якая ў нас брудная вада... Справа дайшла да таго, што муж са мной не параіўся і купіў фільтр. Але на сямейным савеце ўсё ж такі вырашылі, што ён нам не патрэбны. Муж падпісаў крэдыт, але фільтр яшчэ не ўстанаўлівалі. Ці можам мы ад яго адмовіцца?*

**Святлана ЧЫГРЫНАВА, Віцебск.**

— Можаце. Заяўляйце прэтэнзію і скасоўвайце крэдытную дамову. Калі спатрэбіцца юрыдычная дапамога, можаце звярнуцца да спецыялістаў па абароне правоў спажыўцоў.

## У дзіцячай кашы знайшлі лічынкі

*Купілі ў краме дзіцячую кашу, у якой знайшлі нейкія лічынкі. Аднеслі кашу ў магазін, там сказалі, што будуць разбірацца. Маўляў, гэта не яны вінаваты. Што я магу патрабаваць?*

**Святлана, Мінск.**

— Магазін павінен тэрмінова вам вярнуць грошы за няякасны тавар. А з вытворцам прадавец няхай сам разбіраецца. Вы пасля можаце даведацца аб выніках гэтага разбіральніцтва.

## Уважліва выбірайце касметыку

*Набыла ў магазіне дарагую туш для веек. Мне прадалі з вітрыны без упакоўкі і адкрытую. Ці маю я права вярнуць сабе грошы ці абмяняць тавар?*

**Паліна ЗАБЛОЦКАЯ, Магілёў.**

— Не маеце. Спажывец павінен быць больш уважлівы і без упакоўкі касметыку не купляць. Вас жа ніхто не прымушаў гэта рабіць.

## Ці можна вярнуць зламаны тэлефон праз два месяцы пасля пакупкі?

*Купіў мабільны тэлефон, але праз два месяцы ён зламаўся. Ці можна зараз абмяняць тэлефон на новы ці трэба рамантаваць?*

**Сяргей ВЫСОЦКІ, Мядзельскі раён.**

— Замяніць апарат ці вярнуць грошы можна толькі ў тым выпадку, калі ў тэлефоне ёсць істотны недахоп.

## Тавар з недахопам, а чэк згубілі

*Купілі надзіманы матрац, праз 20 дзён знайшлі вытворчы недахоп, а чэк згубілі. Што рабіць?*

**Юрась СТРЭЛЬНІКАЎ, г.Лепель.**

— Заявіце прэтэнзію, калі факт пакупкі пацвердзяць сведкі.

## Зламаўся насценны гадзіннік

*У які тэрмін я магу патрабаваць вяртання грошай за зламаны насценны гадзіннік?*

**Віталь, г.Вілейка.**

— На працягу 7 ці 14 дзён. Але пытанне не вельмі карэктнае, бо невядома, калі вы набылі гадзіннік і хто яго зламаў.

## У новай кватэры паставілі падрапаныя шклопакеты

*Прымаем кватэру ў новабудоўлі, знайшлі шмат недахопаў. У прыватнасці — ёсць драпіны на шкле. На маю прэтэнзію замяніць пашкоджаныя шклопакеты забудоўшчык адмаўляецца гэта рабіць. Ці павінны замяніць падрапаныя вокны?*

**Сям'я Саўчыц, Мінск.**

— Абавязаны, але найперш неабходна правесці экспертызу, пасля чаго і можна падаваць у суд. Вы аплацілі будоўлю, работы павінны быць выкананы якасна.

**Падрыхтаваў Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПАМЯТЬ

## Каждый его прыжок мог стать последним...

Хочу вспомнить о полковнике Вениамине Яковлевиче Дорофееве. Службу в Советской Армии он начинал с царицы полей — пехоты. Первое боевое крещение получил в Курской битве. Вениамин Яковлевич, участвовавший в том историческом сражении, рассказывал мне, что это было ужасное месиво, в котором в одну кучу смешались сотни танков, гаубиц и многие тысячи людей... Из его взвода осталось в живых всего двое. Сам Дорофеев был ранен и контужен и до конца войны получил еще пять ранений, но судьба явно берегла его.

Вениамин Яковлевич был награжден тремя орденами и двумя десятками медалей.

После войны Дорофеев окончил парашютно-десантное училище. Совершил более трех тысяч прыжков! В том числе и сто испытательных, а ведь каждый из них мог стать последним... Службу в армии закончил в звании полковника. Он был одним из самых молодых полковников в семье парашютистов. Сам выполнил норматив мастера спорта и подготовил 20 мастеров-парашютистов, за что удостоен высокого звания "Заслуженный тренер БССР".

Когда Вениамин Яковлевич ушел на гражданку, то продолжал свой трудовой путь в минском областном совете "Динамо", где много времени уделял военно-патриотическому воспитанию юных спортсменов, будущих защитников Отечества.



В день своего 80-летия Вениамин Дорофеев сказал мне, что в своем беззаветном служении Отечеству и в армии, и в спорте он, видимо, мог быть примером для молодого поколения. Беру на себя смелость утверждать, что это так!.. На его дне рождения мы с ним пели: *"Мне часто снятся те ребята, друзья моих военных лет..."*. Это, к большому сожалению, было в последний раз...

Но память о нем живет. Вот и недавно в вышедшей к 90-летию "Динамо" энциклопедии под редакцией Е.Павловского Вениамину Дорофееву уделено достаточно внимания. А если память жива, значит, жив и человек!..

**С уважением —**

**Юрий ЯСИНСКИЙ,**
**ветеран труда и спорта,**
**заслуженный тренер БССР.**

ВАС ИНТЕРЕСУЕТ...

## Начался ли суд?

*"Народная Воля" рассказывала, что за прослушку своих сотрудников была задержана директор фабрики "Слодыч". Начался ли суд по ее делу? Она сама находится в СИЗО или под подпиской о невыезде?*

***Ирина МАКОВА, Минск.***

**Татьяну Селих** задержали в середине декабря минувшего года. С тех самых пор она находится в следственном изоляторе. Уголовное дело передано в Мингорсуд.

Как выяснилось, директор фабрики за счет предприятия купила подслушивающее и звукозаписывающее оборудование и поручила установить его в служебных помещениях. Записи разговоров хранились в ее компьютере. Селих со следствием не сотрудничала, своей вины не признала и, по словам зампрокурора Минска **Александра Реутского**, даже пыталась препятствовать действиям следователей.

ОАО "Кондитерская фабрика "Слодыч" заявило иск о возмещении ущерба в 202 млн рублей.

**Алина ВЕТРОВА.**

ПОГЛЯД

# Карта паляка... А дзе карта беларуса?

Міністэрства замежных спраў Польшчы падтрымлівае польскую дыяспару за межамі сваёй дзяржавы. І гэта цалкам зразумела, гэта варта толькі вітаць. Палякам, якія жывуць у краінах СНД і Балтыі, амбасада Польшчы выдае "карту паляка". Па просьбе даволі шматлікай дыяспары ў Беларусі яна выдаецца з 2008 года і грамадзянам нашай краіны.

Што гэтыя карты ім даюць? Перш за ўсё — ільготы для бязвізавай паездкі ў Польшчу, пражывання і навучання ў гэтай краіне.

Кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь цягам некалькіх гадоў разглядала гэта як умяшанне суседняй дзяржавы ва ўнутраныя справы нашай краіны. Але Польшча прадоўжыла гэтую акцыю, бо клапоціцца аб інтарэсах этнічных палякаў за мяжой.

Але пры тым узнікае пытанне: чаму ж наш урад не бярэ добры прыклад з суседзяў і сам не аказвае дапамогу беларускім дыяспарам за межамі сваёй дзяржавы? Чаму ў самой Беларусі зачыняюцца беларускія школы? Чаму дзяржаўныя выдавецтвы так мала выдаюць добрых кніг на мове тытульнай нацыі? У выніку атрымалася, што прыдуманы яшчэ былым міністрам адукацыі А.Радзьковым слушны заклік "Жыву ў Беларусі і тым ганаруся" давялося зняць. Яго больш не чуваць. Краязнаўчыя мерапрыемствы пад гэтым дэвізам, што праводзіліся сярод школьнікаў, спынены. Няма чым ганарыцца? Бадай... А тым часам маладыя людзі, атрымаўшы ў нашых ВНУ адукацыю, пакідаюць Радзіму і едуць за яе межы шукаць шчасця... Хто ж у гэтым вінаваты?

Паўтаруся: у тым, што палякі атрымліваюць карту паляка, нічога кепскага няма. Аднак засмучае і насцярожвае, што нярэдка такія карты пачалі атрымліваць і маладыя этнічныя беларусы, якія выраслі ў каталіцкіх сем'ях. Так, у мінулым годзе у маіх знаёмых дачка са сваім жаніхом неяк карту атрымалі. Ім давялося вывучаць польскую мову на курсах, а пасля здаваць іспыты, шукаць архіўныя даведкі, што іх дзядулі і бабулі жылі ў Заходняй Беларусі, прайсці праз доўгую цяганіну. Нарэшце яны з'ехалі. Маючы дыпломы ВНУ, многія — поўныя сіл маладыя людзі — гатовы, толькі прапануй ім добрую работу, пакінуць сваю Беларусь... Яны, па сутнасці, не ўшаноўваюць, а разбураюць беларускую нацыянальную ідэю і саму нацыю, бо не падтрымліваюць беларускую мову...

Між тым беларуская дзяржава па-ранейшаму не выдае карту беларуса сваім суродзічам за мяжой. Няма такой карты? Дык зрабіце хаця б праз ГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" для нашых землякоў, што апынуліся ў далечыні ад Бацькаўшчыны, але не павінны парываць з ёю сувязь. Трэба дапамагаць сваім, дзе б яны ні былі — у Сібіры, Германіі, Канадзе ці Амерыцы! Можа, калі хто і вернецца. А не, дык будзе імкнуцца ведаць як мага больш пра сваю Радзіму, будзе любіць яе, не адрываючы ад душы, бо пра іх там не забываюць.

Прызнаем: даволі шмат сярод моладзі такіх, для каго святыя паняцці — Айчына, родны дом, матчына мова — мала што значаць. Ці не таму, што глыбінны патрыятычны сэнс гэтых слоў проста не даходзіць да самых нашых "вярхоў"?

**Сымон БАРЫС,**
**мінчанін.**

ЗА ЧАШЕЧКОЙ КОФЕ С МАРИНОЙ КОКТЫШ



Геннадий ДУЛЕВИЧ:

# «Кажется, к “Кемпински” уже многие привыкли»

*На интервью известный архитектор Геннадий Дулевич приехал с очередного совещания по поводу текущих работ в строящемся возле цирка отеле “Кемпински”. Геннадий Антонович проектирует там спа- и фитнес-центр. Само собой, разговор начался с обсуждения именно этого объекта...*

## Отель преткновения

— Минск — красивый, уютный и удобный город, — *сразу отметил Геннадий Дулевич.* — Но в последнее время появляются какие-то совершенно случайные объекты-ужастики...

**— “Кемпински” — как раз из таких? Здание уже стоит, но вокруг него до сих пор столько споров...**

— Споров действительно очень много. И это понятно — место-то знаковое! А отель закрывает прекрасную панораму, причем почти со всех точек. Когда-то ныне покойный председатель правления Союза архитекторов Степанов, которого все очень любили и уважали, предложил построить на этом месте трехэтажный Дом молодежи, представил эскиз. Так его на архитектурном градостроительном совете просто смешали с грязью! Мол, какое ты имеешь право лезть в это прекрасное место?

Что касается отеля “Кемпински”, то... Ну что уже сделаешь? Знаете, люди очень быстро привыкают. И к хорошему, и к плохому. Моментально просто! И мне кажется, что многие уже привыкли и к “Кемпински”... Мой глаз он тоже не радует, но... Даже я привык...

**— Вы ведь тоже приложили руку к этому строению?**

— К самому зданию я никакого отношения не имею. Делаю там спа и фитнес на втором и третьем этажах. Разрабатывал планировку, технологию, все инженерные разделы, дизайн. При этом я спроектировал немало гостиничных объектов, в том числе и отель “Марриотт”, который должен был появиться в Минске — сейчас на этом месте “Хайят” строится (тоже ужастик, кстати). Одним словом, я немного понимаю в этой теме, знаю требования всех отель-операторов...

**— Пару недель назад в интервью “Белгазете” писатель Артур Клинов высказал мнение, что рано или поздно “Кемпински” может быть снесен, даже несмотря на огромные средства, которые вложены в его строительство...**

— Если сносить “Кемпински”, то половину этих ужастиков, которые понастроили в последнее время, тоже надо снести! Поэтому, думаю, будет стоять отель еще не одну сотню лет!

**— Высочайшим решением “Кемпински” поручено достроить к 1 мая 2014 года. Как думаете, успеют?**

— Нет, конечно! Это невозможно. Тем более что “Кемпински” уже исключен из списка объектов, которые нужно сдать к чемпионату мира по хоккею. Да и вообще мне кажется, что Минску столько пятизвездочных отелей не нужно. Даже для такого крупного спортивного мероприятия. Тем, кто едет на хоккей, хватает и трех звезд. А пять — это уже для буржуев, которым по статусу положено. К тому же заполняемость пятизвездочных отелей у нас всего 20 процентов...

## Дело вкуса

**— В своих публикациях вы частенько критикуете современные постройки в Верхнем городе...**

— В последнее время появилось немало строений, которые, на мой взгляд, портят центр Старого города. Причем система такая, что Рада Минкульта ссылается на Комитет архитектуры, комитет — на Раду, и в конце концов решение по поводу той или иной застройки принимает так называемый научный руководитель. Он известный архитектор и реставратор, но последние объекты его авторства — не самые лучшие. Там просто ералаш в архитектуре! Поэтому я предлагаю создать хотя бы общественные советы, в состав которых войдут именитые специалисты. Пусть эти советы будут консультативными, но важно, чтобы профессионалы своего дела могли выразить мнение по поводу той или иной застройки.

**— А что сейчас мешает авторитетам от архитектуры высказываться? Например, почему промолчали по поводу того же “Кемпински”?**

— Возмущались! Но было принято волевое решение.

**— А не стыдно потом признаваться, что ты, профессиональный архитектор, родил один из этих, как вы говорите, ужастиков?**

— Не все ведь делают белорусские архитекторы. А для тех же россиян Минск — как российская глубинка: можно городить все что угодно! В свое время Белгоспроект отказался от железнодорожного вокзала. А москвичи взялись, построили этот ящик над железной дорогой — его иначе и не назовешь.

**— Можете объяснить, почему стало модно даже на белорусские стройки выписывать импортных дизайнеров?**

— Наверное, все дело в менталитете. Допустим, решил какой-то богатенький белорус сделать ремонт в новой квартире. И обязательно итальянца или француза пригласит, чтобы оформил дизайн. Если взять западные журналы по дизайну и сравнить с нашими, то это небо и земля! У нас значительно ниже уровень, а там больше вкуса.

Недавно дочка (она тоже архитектор) оформляла коттедж для двух дочерей одного очень богатого россиянина. У одной и другой было шесть спален. И у каждой в цокольном этаже — по холодильнику для хранения шуб. Это то, что я называю купеческим менталитетом, переломить который очень сложно... В Беларуси, кстати, это тоже есть: наши люди до сих пор просят, чтобы было больше золота, лепнины, диванчики а-ля Людовик XVI с обивочкой покупают...

**— Интересно, в деревне Тарасово под Минском, где вы живете, много приличных с точки зрения архитектора домов?**

— Есть обычные, классические. Мне самому, кстати, нравится архитектура в балтийском стиле: простые параллелепипеды с хорошей отделкой. Некоторые, конечно, придумывают что-то такое в стиле “ай-яй-яй”... Вот я одному клиенту нарисовал пять эскизов коттеджа, и все ему не то! То бассейн маленький, то стены не такие. В конечном итоге у него не дом, а склад кирпича...

Одним словом, у нас очень много безвкусицы. Бывает, архитектор сделает проект, а потом клиент все равно начинает самовыражаться. Я в районе улицы Пионерской спроектировал два дома. И когда начали строиться, хозяева вдруг начали свое чудить. И сегодня даже невооруженным глазом видны все огрехи: и по стилю, и по пропорциям.

**— А может, у людей просто внезапно денег не хватило на ваши придумки? Бывает же и такое...**

— Не думаю. Тем более что эти люди покупали участки, которые находятся фактически напротив “Минск-Арены”, на аукционе, за приличные суммы.

Канцлер Бисмарк говорил так: *“Хочешь разорить государство — дай волю архитекторам”.* Я из Советского Союза. Тогда по нормам было положено: кухня, койка в больнице и гостинице — 7 квадратных метров. Это, конечно, крайность. И слава Богу, что сейчас этого нет. Можно создать любой комфорт для себя — были бы деньги. Но еще важно, чтобы при наличии финансов не подводил здравый смысл.

Кстати, очень интересные интерьеры в близлежащем к “Минск-Арене” торговом центре “Арена-сити” — литовцы делали.

**— А “Минск-Арена” вам нравится?**

— По фасаду это может быть все что угодно: ангар, производственный корпус или даже атомная электростанция. На мой взгляд, знаковые спортивные объекты должны иметь какой-то яркий образ. Допустим, в Пекине национальный стадион имеет уникальный дизайн и конструкцию в виде птичьего гнезда. Мюнхенский футбольный стадион “Альянц Арена” за оригинальную форму называют “автомобильной шиной” или “воздушной подушкой”. Последние спортивные объекты в Сочи тоже имеют свой образ. Сейчас на проспекте Победителей в Минске строится Центр художественной гимнастики в виде ленты: образ есть, причем на пять с плюсом!

**— Недавно читала, что в южноафриканском Йоханнесбурге из заброшенного элеватора и грузовых контейнеров сделали общежитие на 375 комнат. В Саудовской Аравии строят Центр нефтяных исследований из гигантских клеток-кристаллов. Почему в Беларуси слишком мало оригинальной архитектуры? Дорого или специалисты боятся рисковать?**

— Я проектировал операционный блок в Центре неврологии и нейрохирургии и сразу представил его как фрагмент летающей тарелки. Хаотично разметил окна, которые светятся, а дальше — дело техники: ты знаешь, где будет расположен операционный стол, а где — помещение для швабры... Архитектору в голову просто должна прийти хорошая идея.

## Дом на овраге

**— А над идеей проекта собственного дома вы долго думали? Соседи, наверное, обзавидовались! Насколько я знаю, на этот участок желающих было мало — неудобица, овраг. А ваш дом — просто местная достопримечательность...**

— Меня один хороший знакомый както привез в Тарасово похвалиться своим домом. Я прошелся по улице и увидел этот овраг. Позже узнал, что там после войны был карьер по добыче глины. И на его склонах с одной стороны выросли дубы, а с другой — ольха. Я сразу представил, как там на четырех опорах может стоять дом. Бетона, конечно, пришлось залить туда немало, но были когда-то деньги, мог себе позволить... Правда, сейчас мой интерес к этому дому слегка остыл. Главная причина в том, что живу там один. С кошкой. А в таком доме должна быть семья...

**— Когда последний раз мы с вами виделись, вы были женаты...**

— Семь лет назад развелся. И буквально через год-полтора я увидел этот участок. Сначала думал, что дом большой, хватит места и для дочери, и для сына. Но я не знаю ни одной семьи, в которой бы дети и родители жили вместе. Даже в самом просторном доме...

**— Конечно, всем хочется элементарной независимости. Чтобы можно было свои порядки устанавливать.**

— Да, так и есть. А мне одному в большом доме грустно, особенно зимой. Приедешь вечером после работы, загонишь машину в гараж — и волком выть хочется! Тоска зеленая!

**— Жена у вас, кажется, тоже была архитектором?**

— У меня было две жены, и обе — архитекторы. Вторая супруга некоторое время не работала, а после развода она вернулась в профессию, и сегодня я от души радуюсь ее успехам. Она создала ряд очень достойных объектов!

Обеих жен, кстати, звали Еленами. У меня по этому поводу есть теория, что имена все-таки наделяют людей рядом каких-то общих или очень похожих качеств...

**— Если не секрет, сколько лет вы прожили во втором браке?**

— 20. Конечно, за эти годы я привык, что борщ приготовлен, рубашки выглажены, в квартире чисто. Первое время в этом смысле было непросто. Но привык.

**— Вокруг вас, мне кажется, должно быть немало красивых женщин.**

— Их могло быть значительно больше (*хохочет).*

**— Значит, сейчас вы просто более тщательно относитесь к выбору спутницы жизни.**

— В таком возрасте уже не знаешь, что тебе надо...

**— А мне кажется, как раз наоборот: с возрастом уже точно знаешь, чего тебе не надо.**

— Архитектура любви — сложное искусство. И чтобы в нем до конца разобраться, нужно быть как минимум гением.



Во время празднования “Октоберфеста” в Германии.



**— Что для вас сейчас самое важное? Когда-то вы говорили: *“Дети, их надо поставить на ноги”.* А теперь?**

— Хочу завершить некоторые обременительные проекты, а потом заниматься исключительно тем, чем хочу. Зарабатывать на жизнь, закончить отделку дома. Не хочу совещаний, штабов — сыт по горло всем этим! Большой архитектуры, наверное, не хочу. Я много чего создал, у меня есть знаковые объекты, за которые не стыдно. Что еще? Да и зачем? Тем более что это уже не приносит такого удовлетворения, как раньше...

**— Вы отказываетесь от каких-то денежных заказов, если к ним не лежит душа?**

— Да. И часто. Недавно отказался от двух супермаркетов “Евроопт” в Гомельской области. Работа была большая и выгодная, но... Там нечего было придумывать. Коробка и все.

## Издержки профессии

**— Ваша проектно-творческая мастерская существует с 1990 года. Знаю, что когда однажды своим французским коллегам вы стали перечислять объекты, над которыми работали, они изумились: “*Ты, наверное, просто миллионер!..”***

— Да, была такая история, очень давняя. Потом, когда я посадил их в свою “шестерку”, они поняли, что здесь что-то не так *(смеется).* Хотя в те годы времена были небогатые. Но я, работая в “Белгоспроекте”, получал полторы тысячи, и в мастерской зарабатывал прилично — около 5—6 тысяч.

**— В долларах или рублях?**

— В рублях, но тогда это было почти как в долларах. Я за один месяц купил себе новую “шестерку”. Сейчас за свою месячную зарплату я такого себе позволить не могу.

**— Как раз сегодня просматривала список городских вакансий и удивилась, что асфальтоукладчику предлагают 12 миллионов в месяц, а архитектору — от 3 до 7. По-моему, это просто издевательство...**

— Да, архитекторов резко опустили в материальном плане. Нет объемов работ. В крупных проектных организациях без работы сидят практически все архитектурные бригады!

Еще одна беда — уходит поколение профессионалов...

**— Вы об этом мне говорили еще лет семь назад. Отвечая на вопрос, насколько сильна школа белорусских архитекторов, вы заметили: *“Времена настоящих мастеров уходят. И достойной смены им нет. Как ни парадоксально, нет фанатов своего дела...”***

— И сейчас этот процесс продолжается. Талантливой молодежи мало. Выпускников архитектурных вузов я называю операторами машинного доения. Прошу одного студента начертить разрез по лестнице, а он мне: *“Я этого никогда не делал, не умею!”* Так делай, ты же инженер, каждую деталь должен изобретать!

**— Есть мнение, что сегодня в архитектурных вузах не хватает преподавателей-практиков. Почему вы не преподаете?**

— Мне предлагают. И я, кстати, не согласен с мнением, что в вузах нет достойных преподавателей. Есть! В том же архитектурном работают профессионалы своего дела. Другое дело, что не у всех студентов есть интерес к профессии. Вот я лет пять назад взял пару дипломников. Один из них приходит и говорит: *“Вы столько санаториев сделали, дайте проект, я его спишу”.* Это ужас! Диплом для архитектора — прекрасная возможность реализовать себя, показать, на что способен. Я решил заинтересовать этого студента и взял его с собой на реконструкцию детского санатория “Росинка” между Миорами и Браславом. Все показал, рассказал, а у студента глаза не горят! И вот что сделаешь, если у человека нет никакого интереса к профессии?

**— Не понимаю, зачем тогда поступать в архитектурный, сушить мозги...**

— Наверное, в любой профессии есть такое, когда люди совершенно случайно получают диплом. После института обычно становятся ремесленниками. Когда на компьютере в профессиональных программах могут проект сделать — это азы. За ними уже идут мастера, главные архитекторы проектов, которые могут что-то создать, например, какой-нибудь ужастик. Потом — талантливые архитекторы, и затем — гении.

**— Вы гений?**

— Нет, я просто талантливый. И, поверь, мне этого достаточно. А сейчас даже и ремесленников хороших тяжело найти... Хотя, лукавлю: есть талантливые архитекторы 30-35 лет.

**— Можете назвать их имена?**

— Например, Ермольчик-младший, Вадим Дражин, Арсений Воробьев, Юра Матяш...

## Запах Кокосово

**— Геннадий Антонович, а почему вы решили стать именно архитектором?**

— Я с самого детства хотел, лет с четырех. У меня было хорошо развито пространственное мышление. С первого класса начал ходить в изостудию. Когда пришел в институт, мне не нужно было изучать историю архитектуры, историю искусств — я это все давно перечитал. Был один момент, когда я под впечатлением какого-то фильма захотел стать летчиком. Но этой мечты хватило лишь на месяц.

**— А детям советовали, какую профессию выбрать?**

— Нет. И мне никто ничего не советовал, и я не вмешивался. Для меня было большой неожиданностью, когда сын решил поступать на истфак БГУ. Потому что по натуре он технарь, причем это было заметно с самого детства. Он закончил институт, прекрасно разбирается в компьютерах. Учился, кстати, на потоке с Виктором Александровичем Лукашенко, но тот потом перевелся на факультет международных отношений. Сын некоторое время работал и у меня в мастерской, но затем мы поссорились, и он снова ушел на вольные хлеба.

**— Непростой у вас характер...**

— У меня и дочь работала, но я ее тоже уволил. Завалила мне планы здания прокуратуры Минска. Зато теперь с ней, бывает, советуемся по каким-то вопросам.

**— Вы себе или детям купили бы квартиру в доме Чижа возле Троицкого предместья?**

— Сразу скажу, что не очень люблю архитектора, который строил этот дом. С одной стороны, я тоже как-то уже привык к этому дому... Хотя с точки зрения градостроительной — это ужасно. Есть только одно место, с которого это строение может впечатлить: когда на лодочке плывешь по Свислочи. А если смотреть со стороны бывшей второй больницы, то это просто некрасиво. Фасад — полная безвкусица. Интерес представляет только само место: вышел на балкончик, полюбовался пейзажем...

**— Где, на ваш взгляд, должно возводиться дорогое жилье: в центре или на окраине города?**

— Многие новостройки я называю просто тарой для жилья. Вот возьмите район “Каменная Горка”. Окно в окно! Грязища кругом. Там уже сейчас негде поставить машину. Мне кажется, в таких районах можно иметь квартиру, чтобы после работы, если сильно задержался, было где переночевать. А как там жить — не представляю. Магазинов мало, с детскими садами и школами — проблема. Я считаю, надо развивать идею индивидуальной застройки. И дать возможность белорусам быть ближе к земле.

Дом, на мой взгляд, может быть небольшим, 100—150 квадратных метров, но обязательно чтобы была зелень и небольшой участок, где можно будет ручками работать, а не сидеть постоянно у монитора компьютера. И дети лучше развиваются, когда живут не в бетонных тарах для жилья, а ближе к природе. Таких неудобиц, как у меня, в том же Тарасово я могу показать много. И сети, и инфраструктура уже есть. И мне кажется, что если есть деньги на квартиру, то их лучше потратить на строительство собственного дома. Утром вышел на крыльцо — свежий воздух, красота! Хочешь — в снегу валяйся, хочешь — цветы нюхай. И это так здорово — ощущать природу, запахи, свою землю. Я, кстати, Тарасово в шутку называю Кокосово.

**— Почему?**

— У меня есть там несколько любимых мест. Одно из них — под дубами. Я летом расстилаю спальничек, закрываю глаза и просыпаюсь от того, что падает желудь. И думаю тогда*: “Хорошо, что кокосы на участке не растут!” (Смеется.)*

**— Много лет назад в одном из интервью вы сказали: “*Я не проектировал только атомных станций”.* Как вы относитесь к тому, что в Беларуси появится своя АЭС? И не приглашали ли вас поучаствовать в проекте?**

— Я и не пошел бы. На мой взгляд, там ничего интересного нет. Простые объемы, трубы, голая технология. Я несколько лет назад писал рецензию на диплом одного молодого человека, который придумал очень интересный дизайн атомной станции: такой фантастический жук-монстр, с лапами, панцирем и костями. Смотрелось очень оригинально!

**— В последние годы в нашем обществе стало принято обсуждать новые застройки. В некоторых странах это давно стало нормой. А, например, в той же России архитектор Москвы заявил, что *“люди зачастую мыслят очень локально”.* Вы с ним согласны?**

— У меня на Притыцкого был торгово-административный объект — трехэтажное здание, на свободной площадке. Проект прошел все экспертизы, но народ вышел чуть ли не с косами: *“Нам мешает!”* И инвесторам пришлось от него отказаться. Как говорится, выбросили деньги на ветер. Это, конечно, отрицательный момент.

На мой взгляд, все эти так называемые общественные обсуждения больше похожи на какие-то свары, конструктивного диалога не получается. У меня складывается ощущение, что белорусы пока к нему не готовы...

**— Геннадий Антонович, а как вы на критику реагируете? В интернете ведь и ваше имя вовсю склоняют, например, за ту же Немигу - за застройку от Комсомольской до Городского Вала...**

— Совершенно спокойно! Если критика конструктивная — это хорошо. Допустим, за Немигу больше критикуют не меня, а автора паркинга Багласова...

**— Какой объект, появившийся в Минске за последнее время, вам нравится?**

— Гостиница “Марриотт” на проспекте Дзержинского. С одной стороны, это сложное здание, но оно эргономичное. И интересно смотрится с любой точки.

**— Архитекторам, которые своими инновационными идеями и постройками внесли значительный вклад в искусство архитектуры, вручают главную мировую премию — Притцкеровскую. Как думаете, в Беларуси есть претенденты на эту награду?**

— Эту премию дают за концептуальную архитектуру, которая ближе к искусству. У нас это пока не очень развито. Но у меня есть мечта — заняться когда-нибудь именно этим направлением...

## Из личного дела

*Геннадий Дулевич. Главный архитектор и директор ПЧУП “Творческая мастерская Дулевича Г.А.”.*

*Родился 9 апреля 1951 года.*

*Овен, холерик.*

*Не женат. С отличным чувством стиля и юмора.*

КОРАТКА

## Грошы мяняюць да 1 красавіка

*1 красавіка спыняецца абмен беларускіх купюр у 10 і 20 рублёў на больш буйныя.*

Нацбанк Беларусі заявіў аб заканчэнні тэрміну абмену банкнот наміналам 10 і 20 рублёў. Яны былі выведзены з наяўнага абарачэння 1 сакавіка 2013 года.

Да 31 сакавіка старыя банкноты яшчэ можна абмяняць без камісійнага збору ў любой суме ў структурных падраздзяленнях Нацбанка.

## Азімыя загінулі

*Праўда, не ўсе, а толькі частка.*

Паводле слоў першага намесніка міністра сельскай гаспадаркі і харчавання **Леаніда Марыніча,** з-за неспрыяльных умоў надвор’я ў гэтым годзе ў Беларусі загінулі не менш за 44 тыс. га азімых збожжавых культур, што складае 3,1% ад іх агульнай плошчы. Аб гэтым піша БелаПАН.

У той жа час ён падкрэсліў, што ў ведамства пакуль няма дадзеных аб гібелі азімых у Магілёўскай вобласці. “*Адборы ўзораў ужо зроблены, і да канца тыдня мы атрымаем вынікі. Думаю, што там сітуацыя не пагоршыць агульны стан па структуры, але нас сёння насцярожвае стан азімых у Віцебскай вобласці”,* — адзначыў намеснік міністра.

Паводле яго слоў, з 44 тыс. га загінуўшых азімых 35,3 тыс. га былі засеяны ў Віцебскай вобласці. *“Згуба склала па азімых збожжавых 16,1%, па азімым рапсе — 42%”,* — сказаў Марыніч.

## Беларускія студэнты змогуць атрымліваць вучоныя ступені ў Японіі

*Нацыянальны паслядыпломны інстытут палітычных навук (GRIPS) Японіі плануе запрашаць беларусаў для навучання ў магістратуры і дактарантуры.*

“Асноўная цікавасць японскага боку заключаецца ў запрашэнні беларускіх грамадзян для навучання ў магістратуры або дактарантуры, у тым ліку і за кошт фондаў урада Японіі”, — адзначылі ў прэс-службе Акадэміі навук Беларусі.

Старэйшы прафесар GRIPS, дырэктар двухгадовай магістарскай праграмы па дзяржаўнай палітыцы Джэймс Роўдс адзначыў, што ў японскім ВНУ 67% студэнтаў — замежнікі з 60 краін. Больш за палову праграм GRIPS з’яўляюцца міжнароднымі і вывучаюцца на англійскай мове. Прафесар упэўнены, што прадстаўнікоў Беларусі маглі б зацікавіць двухгадовая магістарская праграма GRIPS па дзяржаўнай палітыцы, а таксама праграма дзяржфінансаў, у прыватнасці адзін з яе напрамкаў — мытнае кіраванне.

## Мінчане радзей скардзяцца на брудныя пад’езды

Колькасць зваротаў грамадзян з нагоды няякаснай уборкі пад’ездаў у сталіцы ў гэтым годзе значна скарацілася.

Як адзначыў гендырэктар ДА “Мінская гарадская жыллёвая гаспадарка” **Уладзімір Хадарцэвіч,** збольшага гэта звязана са змяненнем нормаў перыядычнасці ўборкі пад’ездаў, нагадвае агенцтва “Мінск-навіны”. Цяпер сухая ўборка праводзіцца не штодня, а 2 разы на тыдзень. Вільготную ўборку дастаткова праводзіць 2 разы на месяц. У выніку аб’ём работы для кожнага пад’езда паменшыўся. Рабочым па комплекснай уборцы прасцей абслугоўваць большую колькасць парадных, хоць штат такіх работнікаў у сістэме ЖКГ звычайна не ўкамплектаваны.

Хадарцэвіч нагадаў, што з кастрычніка мінулага года ў сталіцы дзейнічае сістэма кантролю якасці выканання ўборкі ў пад’ездзе пры дапамозе грамадскасці. Так, старэйшыя па пад’ездах падпісваюць акты выкананых работ пасля таго, як прыбіральшчык навёў парадак. Гэта дазваляе, з аднаго боку, кантраляваць рабочых па комплекснай уборцы, з другога — усталяваць ісціну ў выпадку з’яўлення скаргі на бруд: калі акт падпісаны, значыць, прыбіральшчык добрасумленна выканаў сваю работу і не вінаваты ў тым, што ў пад’ездзе брудна.

